# Аляксандр Дарашэвіч: "Стварыць у вёсцы гарадскія ўмовы можа кожны, а ў горадзе чыстае паветра купіць немагчыма"

АСТРАВЕЦ

**Гаспадар аграсядзібы ў Астравецкім раёне летась арганізаваў прыборку, падчас якой вывезлі больш за 2 500 літраў смецця.**

Чаму пра Аляксандра Дарашэвіча кажуць, што ён плавае нібы сыр у масле, чытайце ў вытрымках з нашай размовы.

### Пра сыр у масле

Мы сям'ёй жывём па прынцыпе кармічнага менеджмента. Любое дзеянне, станоўчае ці адмоўнае, вернецца у сто разоў. Калі смеціш – неабавязкова заўтра смецце на галаву зваліцца, але хутка дзіця захварэе, і будзе незразумела, чаму. А калі зробіш добры ўчынак – атрымаеш падарунак.

Мы не здзіўляемся, калі жывём добра. Пра мяне кажуць, што Дарашэвіч як сыр у масле плавае. Але летам а палове шостай я ўжо працую на вуліцы, прыбіраю смецце.

### Як зарабляць шмат

Вёска памірае і таму, што вясковыя школьнікі не ведаюць, як у вёсцы можна жыць паспяхова, багата і карысна для здароўя. Бацькі арыентуюць на горад, каб быў лепшы заробак. Але такі ж парадак грошай можна мець у вёсцы і не парушаць асяроддзе.

Жонка з навучальнай праграмай ездзіла па школах, пыталася ў дзяцей, як можна атрымаць шмат-шмат грошай. Самы папулярны адказ – выйграць у латарэю, атрымаць спадчыну, адзін яшчэ сказаў: узяць танны лес, прадаць дорага. Пытаешся, а як жа новы вырасце – ну дык гэтым ужо дзяржава павінна займацца. Гэта спажывецкае стаўленне. Ніхто не прапанаваў не лясамі гандляваць, а ўзяць адно дрэва і зрабіць з яго мэблю ці мастацкі выраб. Часам рэч, зробленая рукамі, прынясе больш грошай, чым калі стаяць на заводзе. Неабавязкова цягаць інструменты, можна знайсці занятак, які прыносіць задавальненне, грошы і не шкодзіць прыродзе.

### Адказнасць за свой лёс

Раней у вёсцы жыў каваль, пчаляр, майстры. Дзеці гадуюцца на прыродзе, дастатак, задавальненне ад працы. А што ты атрымаеш у горадзе? Выгоды? Дык тое самае ў вёсцы можна зрабіць – і ацяпленне, і ваду, і газ, і каналізацыю. Якасць жыцця ў горадзе і вёсцы непараўнальная. У горадзе шмат фактараў, якія пераадолець немагчыма – чысціня паветра ад асабістых высілкаў не зменіцца ніяк.

Калі ад фермы ідуць нітраты ў калодзеж – прыбраў, і будзеш піць чыстую ваду, вырашыў не паліць пластык – атрымаў чыстае паветра. У вёсцы ты сам адказваеш за сваё жыццё, у горадзе ж гэту адказнасць дэлегуеш камусьці і скардзішся, што нешта не пачысцілі, дзесьці не выканалі. Сам жа адасобіўся ад свайго жыцця. Страшна кіраваць сваім лёсам, прасцей аддаць у чужыя рукі.

У вёсцы трэба мала грошай. Уладкаваць побыт няма ніякіх праблем. Стварыць у вёсцы гарадскія ўмовы можа кожны, а вось у горадзе чыстае паветра купіць немагчыма.

Можна завесці пасеку на 300 вулляў і збіраць мёд у прамысловых маштабах, забруджваючы асяроддзе, а можна паставіць 20 вулляў і рабіць экалагічна чысты прадукт, які каштуе ў пяць разоў даражэй і мае попыт.

### Пусты лес

Мы ездзім па лясах, але лес пусты. Лясгас замест развіцця лесу стварае паркавую гаспадарку. Задача – вырасціць дзелавую драўніну, але ж так збядняецца прырода. Трэба елкі – астатняе высякаецца, але ж крушына – корм птушак.

Біяразнастайнасць павысіць маю якасць жыцця і дапаможа скараціць затраты на вядзенне гаспадаркі. Будзе куніца і сава – значыць, менш мышэй. Ну, і калі шмат птушачак, гэта такое эстэтычнае задавальненне!

### Як выбралі хутар

Адна з прычын пераезду ў вёску – дзеці выраслі, не трэба вырашаць пытанні з адукацыяй. У 2011 годзе выбралі гэты хутар. Выбіраць жыллё трэба ў залежнасці ад мэт. Калі вы аматары палявання – месца павінна гэтаму адпавядаць. На радзе сям'і неабходна, каб кожны расказаў, што трэба яму, прыйсці да паразумення, сумесна стварыць мадэль, што ты шукаеш, а пасля шукаць сярод прапаноў тое, што найбольш блізкае да гэтай мадэлі.

Некаторыя мяркуюць, што можна купіць танны дом, і будзе сваё месца на прыродзе, але яны не ўлічваюць, што дому неабходны пастаянны догляд, без якога той прыходзіць у непрыдатнасць. І калі прыязджаць толькі двойчы на год на тыдзень, то выгадней наведваць аграсядзібу.

Гэты дом ля Сарачанскіх азёр знайшлі выпадкова, глядзелі іншы. Пабудовы ніякія, але пасярод лесу, і гэта нас падкупіла, сосны – абхапіць немагчыма. Дзікія жывёлы прыходзяць на ўчастак.

### Як дзеці сталі неймаверна паспяховымі

У нас двое дзяцей, сын **Антон** і дачка **Яўгенія**. Ужо самастойныя, у гэтым месяцы стаў дзядулем.

Дзеці многага дасягнулі, і ў гэтым я бачу кармічны менеджмент у дзеянні. Сын паступіў ва Усерасійскі дзяржаўны інстытут кінематаграфіі, адзіны ў групе скончыў з залатым медалём, атрымаў прэзідэнцкую прэмію каля 10 тысяч долараў, урад Масквы на развіццё бізнесу выдаў 500 тысяч рублёў, ніякіх блатаў, я да кіно не маю ўвогуле ніякага дачынення. Яму проста ўсё вяртаецца. Дачка вучылася ў Чэхіі, прайшла конкурс падтрымкі студэнтаў, са стыпендыяй жыла лепш за нас, ездзіла ў падарожжы. Але жыць у Еўропе не захацела. Яны з сынам арганізавалі "Кіна хаўз" – пакоі, дзе можна і кіно паглядзець, і паесці. Сын кіруе ў Маскве, дачка гаспадарыць філіялам ў Піцеры.

Наша задача як бацькоў – максімальна раскрыць магчымасці дзяцей. Калі прыходзілі са школы і расказвалі: "Наша Мар'я Іванаўна сказала, што рабіць трэба так і так", я адказваў: "Мар'я Іванаўна колькі зарабляе? А твой бацька? Каму верыць?"

Прымайце парады ад тых людзей, якія жывуць так, як хацелі б вы.




Фота Наталлі ТУР.

Аляксандр Дарашэвіч стаў пераможцам у намінацыі "Учынак года-2017" па версіі "Рэгіянальнай газеты".

Дом будавалі, каб сем'і дзяцей прыязджалі гасціць, таму на час, калі яны ў Расіі, мы аказваем паслугі аграсядзібы.

### Як пазнаёміўся з жонкай

Нарадзіўся ў вёсцы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці, пераязджалі ў іншыя месцы, таму што бацька працаваў у лясной гаспадарцы, яго пераводзілі. Хацеў паступаць, каб займацца прыродай, але бацька сказаў, што хопіць у сям'і леснікоў. Хаця я сваіх дзяцей ва ўсім падтрымліваў, нават шчыра сумніўныя ідэі. Атрымаў адукацыю інжынера-цеплаэнергетыка, працаваў на прадпрыемстве, а пасля адкрыў сваю праектную арганізацыю. Займаўся і альтэрнатыўнымі крыніцамі энергіі, сваім прыкладам паказваю, што гэта добра.

Жонцы Вользе больш трэба людзі, таму яна на некалькі дзён на тыдзень ездзіць у Мінск, там кліенты, ёга. Пазнаёміліся так – пайшоў па размеркаванні ў армію, вярнуўся, сустрэўся з сябрамі – а там і яна была. І ўсё атрымалася.

### Пра АЭС і экалагічнасць

Хаця каля нас стаіць АЭС, я лічу, так яе і не запусцяць. Таму наконт экалагічнасці нашага месца не клапачуся. Агратурызм – гэта не калі паказваюць жывёл у клетцы, а калі яны сустракаюцца ў прыродзе.

Дамоў я прыходжу начаваць. Дома няма тэлевізара, і ўвесь час ёсць чым заняцца – у нераст чырвонай рыбы ахоўваў ад браканьераў і разбіраў плаціны, прыбіраю смецце, фатаграфую прыроду, будую, заклаў лесасад. Шмат часу шукаў саджанцы – больш за 30 відаў арэханосаў, сярод іх грэцкі арэх, чорны, фундук, ядомы каштан, кедры. У садзе будуць і чарэшні, абрыкосы, але асноўны акцэнт на арэхі.

### Што за бізнес без алкаголю

У сядзібе мы не вітаем алкаголь, забараняем курыць. Нават у міністэрстве кажуць, ну, што гэта за бізнес без алкаголю. Так, калі б мы пускалі застоллі, мы зараблялі б на парадак больш і былі б больш паспяховымі, але з пункту гледжання кармічнага менеджменту мы не былі б шчаслівыя. Таму нашы госці – тыя, хто хоча пабыць на прыродзе.

### Чаго баяцца гараджане

Некаторыя гарадскія вельмі далёкія ад прыроды. Прыехалі госці, засталіся ў палатцы, раніцай прыходжу, у палатцы нікога няма. Падыходжу да машыны. Сядзяць там, кажуць, што нейкі жук у палатцы. Ну, іду глядзець, што там за страшны звер, адкрываю палатку – божая кароўка сядзіць!

Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.



# Хто пад Смаргонню не бываў, той вайны не ведаў

## Маладзечанец – пра падзеі Першай сусветнай у рэгіёне і не ўлічанае пахаванне на станцыі Пруды




Аляксандра Талстая ў Маладзечне. 1915 год.




Карта генштаба Чырвонай Арміі 1920-30-х гадоў. Могілкі абведзеныя.

МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ

**На станцыі "Пруды", што на Маладзечаншчыне, побач са старой шашой Мінск-Вільня знаходзіцца пахаванне. Пакуль яно значыцца як не ўлічанае.**

На насыпе плошчай прыкладна 15 на 60 метраў выразна праглядаюцца рады магільных грудкоў і брацкіх магіл правільнай прамавугольнай формы на некалькі чалавек. Колькасць пахаваных – прыкладна 140 чалавек.

Я маю карту Ваеннага геаграфічнага інстытута (Варшава, 1934 год) і карту Генеральнага штаба рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі 1938 года, дзе пахаванне выразна пазначанае.

Атрымліваецца, што яно ранейшага перыяду. І, хутчэй за ўсё, часоў Першай сусветнай вайны 1914-1918 гадоў.

У кастрычніку мінулага года тут працаваў 52 пошукавы батальён Міністэрства абароны МУС. Да шкілета раскапалі адну з магіл. Аднак ніякіх вайсковых артэфактаў не знайшлі. Не было гузікаў, какардаў, нацельных крыжыкаў, спражак ад рамянёў, абутку. А калі няма неабходных артэфактаў і дакументаў – значыць, пахаванне не прызнаюць вайсковым. Адпаведна і даглядаць яго не трэба, і помнік-крыж ставіць.

У сувязі з гэтым хочацца прыгадаць, што на правілах рускага імператарскага войска тых часоў, вайскоўцаў, якія паміралі ў лазарэце, хавалі толькі ў нацельнай бялізне. Магчыма, вайсковы лазарэт і знаходзіўся дзесьці побач.

Могілкі месцяцца ў 400 метрах ад будынка чыгуначнай станцыі 1905 года, побач са старой дарогай у фальварак Высакаўшчызна.

Тут ляжаць людзі, вельмі верагодна, салдаты. Да таго ж побач шаша Мінск-Вільня. Едуць замежныя турысты з сядзібы **Міхала Клеафаса Агінскага** ў Залессе, адпачывальнікі ў рэспубліканскі санаторый "Вяжуці" і глядзяць на гэта закінутае пахаванне, якое да ўсяго можа быць вайсковым.

На мае запыты ў архівы РСФСР, кожны з якіх платны, прыходзяць аднолькавыя адказы: звестак няма, архівы па Першай сусветнай вайне да гэтага часу неўпарадкаваныя.

Па ўспамінах мясцовых жыхароў вёсак Баяры, Турэц, Запаляўкі, у 1920-1930-х гадах ад цывільных магілак у Запаляўках да пахавання, пра якое ідзе гаворка, заўсёды раз на год ладзілі Крэсны ход. Паніхіду служылі ксёндз і праваслаўны святар. Быў драўляны памост.

Цяпер асобна хацелася б звярнуцца да тэмы Першай сусветнай вайны ў мясцовасці Маладзечна-Смаргонь. Звесткі пра гэтыя трагічныя падзеі сталі вядомыя мне з розных крыніц, у тым ліку з апублікаваных у друку мемуараў **Аляксандры Талстой** (1884-1979), малодшай дачкі пісьменніка **Льва Талстога**, з мемuараў **Уладзіміра Джункоўскага** – шэфа корпуса жандармаў Расійскай імперыі. Генерал-маёр, маскоўскі губернатар, ён кіраваў адной з Сібірскіх дывізій у раёне Залессе-Крэва, пазней – трэцім Сібірскім корпусам. За тое, што паведаміў **Мікалаю Другому** пра непрыстойныя паводзіны **Рыгора Распуціна**, Джункоўскага адхілілі ад пасады, і ён дамогся пераводу на фронт у дзеючую армію.

Штаб Паўночна-Заходняга фронту дзесятай арміі знаходзіўся ў Маладзечне. Кіравалі ім у розныя часы **Аляксей Эверт** (1857 – 1918), **Антон Дзянікін** (1872-1947), **Яўген Радкевіч** (1851-1930). Вядома, што Эверта застрэлілі чэкісты пры этапаванні ў турму, а Дзянікін эміграваў.

Фронт паміж Смаргонню і Маладзечнам устанавіўся ад 1915 да 1918 года. Насельніцтва з прыфрантавой зоны арганізавана эвакуявалі. Цар Мікалай Другі даваў бежанцам працу і жытло. На кожнай станцыі арганізавалі харчовыя пункты. Па ўспамінах людзей, белага хлеба можна было браць колькі хочаш. Добра забяспечвалі прадуктамі і рускую імператарскую армію.

Станцыя Пруды была ў тыле, за другой лініяй фронту. А штаб корпуса месціўся ў панскім двары Маркава. Цяпер гэта тэрыторыя гатункававыпрабавальнай станцыі. Пэўны час штабам кіраваў азербайджанец **Самадбек Мехмандараў** (1865-1931).

На станцыі Пруды быў харчовы пункт, працаваў рабочы атрад аховы станцыі. Па нямецкіх пазіцыях вялі агонь восем гаўбіц. Для прыкрыцця з паветра ў фальварку Маліноўшчына, у чатырох кіламетрах ад станцыі, размясціўся корпусны грэнадзёрскі авіяцыйны атрад.

Па ўспамінах мясцовых жыхароў, у 1916 годзе адзін з аэрапланаў, вяртаючыся з задання, зачапіўся за электраправады каля вёскі Кучкі, і лётчык загінуў. Магчыма, яго пахавалі на станцыі Пруды.

**Аўтар звяртаецца да чытачоў "Рэгіянальнай газеты" з просьбай. Магчыма, у кагосьці ёсць дакументы, фотаздымкі, успаміны пра пахаванне на станцыі Пруды. Перадайце, калі ласка, копіі крыніц у рэдакцыю газеты. Магчыма, гэта дапаможа перавесці пахаванне з разраду не ўлічаных у разрад вайсковых. У далейшым месца будзе дагледжанае і там з'явіцца памятны знак.**

Віктар ГОЛУБ, Маладзечна.
Працяг будзе.

КАЛЯНДАР

13 СТУДЗЕНЯ

**1593.** У Вішневе (Валожынскі раён) памёр (паводле іншых звестак быў забіты) **Сымон Будны**, мысляр эпохі Адраджэння, асветнік, друкар. Нарадзіўся каля 1530 года.

**1885.** Памёр **Іван Хруцкі**, мастак, заснавальнік жанру акадэмічнага нацюрморта ў беларускім жывапісе.

14 СТУДЗЕНЯ

**125 гадоў** з дня нараджэння **Канстанцыі Буйло** (сапр. Калечыц Канстанцыя Антонаўна) (1893 – 1986), беларускай паэтэсы, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

**100 гадоў** з дня нараджэння **Віктара Анікіна** (1918 – 1997), беларускага архітэктара і педагога, які працаваў у канцы 1940 – пачатку 1950-х у Літве; заслужанага архітэктара Беларусі, члена-карэспандэнта Беларускай акадэміі архітэктуры.

**1916.** Нарадзіўся **Уладзіслаў Чарняўскі** (засц. Амбружын, цяпер Ашмянскі раён), каталіцкі святар, перакладчык літургічных тэкстаў на беларускую мову.

**1927.** Нарадзіўся **Янка Філістовіч** (в. Паняцічы, цяпер Вілейскі раён), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху. Расстраляны саветамі ў 1953 годзе.

15 СТУДЗЕНЯ

**110 гадоў** з дня нараджэння **Заіра Азгура** (1908 – 1995), беларускага скульптара, народнага мастака Беларусі, народнага мастака СССР, члена Акадэміі мастацтваў СССР, Героя Сацыялістычнай Працы.

**1994.** Памёр **Генадзь Каханоўскі**, гісторык, краязнаўца, літаратуразнаўца. Пахаваны ў вёсцы Насілава Маладзечанскага раёна.

16 СТУДЗЕНЯ

**1916.** Нямецкі фельдмаршал **Гіндэнбург** выдаў загад аб наданні беларускай мове раўназначных правоў з іншымі краёвымі мовамі на акупаваных кайзераўскімі войскамі тэрыторыях.

17 СТУДЗЕНЯ

**1979.** У СССР прайшоў перапіс насельніцтва, паводле якога на Беларусі – 9 560 000 чалавек.

18 СТУДЗЕНЯ

**120 гадоў** назад (1895) у мястэчку Івянец, цяпер Валожынскі раён, нарадзіўся **Лявон Більдзюкевіч**, педагог, матэматык, грамадскі дзеяч.

**1912.** Нарадзіўся **Пётра Сыч** (в. Батурына, цяпер Вілейскі раён), пісьменнік, аўтар аповесці "Смерць і салаўі" пра бітву пад Монтэ Касіна, публіцыст, вязень савецкіх канцлагераў, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Германіі.

Марыя БЕРАСНЕВА.





# Маю права

**Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.**

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

# Хаця заканадаўства абараняе экалогію, але яго выконваюць недастаткова

**На "круглым стале" "Рэгіянальнай газеты" для абмеркавання экалагічных правоў мы запрасілі настаўніцу з Ілы Алену Шачыкаву, гаспадара аграсядзібы на Астравеччыне Аляксандра Дарашэвіча, дырэктара Цэнтра экалагічных рашэнняў у Мінску Яўгена Лабанава і журналіста і арганізатара экалагічных актыўнасцяў Аляксандру Парахню. Вядучай мерапрыемства была журналістка "РГ" Зоя Хруцкая.**

Алена расказала, што насупраць яе дома чалавек на сваім участку паставіў дрэваапрацоўчы станок. Шум ад яго перашкаджае жыхарам, а дровы пасля купляюць у тым ліку мясцовыя жыхары.

**Алена**: Станок вельмі шумны. Побач гаспадар складвае цуркі, тры адзінкі тэхнікі – дарога ніякая. Ён прадае дровы тры гады. За гэты час у доме развяліся жукі-караеды. Жыву на гэтай вуліцы з дзяцінства, побач лес і рэчка. Мы прывыклі, што тут чыста і ціха, самі прыбіралі вуліцу граблямі, дзяцей прывучылі.

У нас ёсць непрацуючая ферма, дзе можна займацца гэтай працай. Ён адказвае, што тут прапісаны і рабіць будзе, што хоча, і гэта не вытворчасць.

**Аляксандр**: А што сельсавет?

**Алена**: Старшыня паабяцаў, што дапаможа вырашыць пытанне. Можа, перанясуць станкі.

**Аляксандр**: Участак прызначаны для жылля. Калі ён наладзіў там шумную вытворчасць, то гэты ўчастак, хутчэй за ўсё, выкарыстоўваецца не па прызначэнні. І ён можа колькі заўгодна казаць, што гэта не вытворчасць, але ёсць нарматывы, колькі чалавек можа вырабіць з падсобнай гаспадаркі. Калі ідзе на продаж, то падаткі плаціць. Акрамя сельвыканкама варта звярнуцца ў санстанцыю – няхай замераюць шум працуючага станка.

**Алена**: У мяне таксама ёсць шэсць сотак, няўжо і я магу паставіць пілу і дровы секчы на продаж?

**Аляксандр**: Для вёсак і шматкватэрных дамоў такая праблема актуальная – правілы сумеснага пражывання. Некаторыя лічаць, што шум у вёсцы – гэта не страшна. Раней у вёсках быў стараста, які прыходзіў да такога "раблю, што хачу" і тлумачыў: у нас такія правілы, не падабаецца – пеўня пусцім. Гэта ўжо пагроза, але немагчыма было прыехаць і заводзіць свае парадкі. Вядома, сельсавет зацікаўлены, каб ішлі падаткі, але трэба гэтаму чалавеку стварыць умовы, пры якіх ён не будзе перашкаджаць іншым. Аб'ядноўвайцеся ў змаганні.

**Алена**: Жывучы ў вёсцы, заўсёды заўважаю смецце, падбіраю, калі проста валяецца. А едзе мінчанін на крутой машыне – нават з аўто не выходзячы, кідае пакет і паехаў. Сабакі разрываюць, і застаецца куча бруду. Калі ідзеш па вёсцы, дзе жывуць мясцовыя, паўсюль чыста, ніхто не шуміць, глядзяць агарод. А мы жывём на ўскрайку, дзе многія прыезджыя.

Магчыма, думаюць, што ніхто не бачыць ці не паскардзіцца, і таму можна рабіць хоць што. Аднавяскоўцы падтрымліваюць мяне, але баяцца. Нібы я самая смелая, гаварыць гавораць, але скарджуся толькі я. Адно спадзяванне на моладзь, і мае вучні заўсёды падтрымліваюць прапановы прыбраць берагі, і бацькі прывучаюць.

**"РГ"**: Аляксандр, вы жылі ў Мінску, а цяпер на хутары Астравецкага раёна. Згодны з параўнаннем гарадскіх і вясковых жыхароў?

**Аляксандр**: Вырас я ў вёсцы і меў розны досвед жыллёвых умоў. З суседзямі шанцавала не заўсёды, і гэта не залежала, мясцовыя людзі ці прыезджыя. Але часта выхаваныя так: тое, што за агароджай ці за сценамі, ужо не мае, на мяне не ўплывае, і плявацць, што пра мяне падумае сусед.

З-за такіх адносінаў я і шукаў дом на хутары, каб не рызыкаваць і не марнаваць жыццё на перавыхаванне суседзяў. Я тры гады жыву на аграсядзібе, і хаця часта кажуць, што смецяць прыезджыя, па маім досведзе, асноўная частка смецця – ад мясцовых.

> **Мая праблема ў тым, што берагі ракі – суцэльная сметніца. Кажу мясцовым людзям ва ўзросце, ну, вы ж тут жывяце, чаму не прыбіраеце? Адказваюць: а, ну, гэта яшчэ з Савецкага Саюза! А хто ж тады жыў і смеціў, як не вы?!**

Ладзілі там некалькі акцый прыборкі, але фізічна ніяк не можам усё прыбраць. Побач жывуць гаспадары яшчэ адной аграсядзібы, таксама з Мінска прыехалі. Яны заўсёды гатовыя дапамагчы. Сельсавет разводзіць рукамі, а мясцовыя не лічаць патрэбным прыбіраць. Яны не ўспрымаюць гэта сваёй праблемай. Тлумачу, што пасля вы здзіўляецеся, адкуль хвароб столькі ў саміх і дзяцей, дык вось адкуль!

Нядаўна рабілі забор вады на мікрапластык. Здавалася б, заказнік Сарачанскія азёры, а мікрапластык паўсюль. Смецце драбіцца, часцінкі трапляюць у ваду, а пасля вяртаюцца нам. А людзі ў хваробах шукаюць прычыны ў дактарах, хаця стварылі праблему самі.

Першыя разы мне казалі – ну, што там прыбіраць тыя берагі, і так чыста. А калі мы некалькі разоў запар вывезлі прычэпы смецця, гэта ўбачылі. Я прапанаваў раёну арганізаваць камісію ці групу, каб на месцы прыезджалі адразу ўсе зацікаўленыя: санстанцыя, лясгас, ахова прыроды. І комплексна ацанілі, якія праблемы, і на гэтым канкрэтным месцы навялі парадак. І жыхары будуць ведаць, што праз месяц-два камісія можа прыехаць да іх далей наводзіць парадак. Не ў нас там так кепска, а паўсюль!

**Алена**: Выведу на прыборку хоць пяць вучняў, яны пасля самі сочаць. Калі на прыбраным бутэлька валяецца – сам данясе да сметніцы. Яшчэ наш сусед паліць кару, уявіце сабе наступствы.

**Аляксандр**: Спальваючы пэўны аб'ём кары, ён выкідвае ў атмасферу шкодныя рэчывы. Ці можна гэта рабіць, а калі можна, то ў якім аб'ёме – гэта таксама рэгулюецца. Няхай праверыць санстанцыя і ахова прыроды. Магчыма, больш правільна кару не спальваць, а вывозіць у вызначанае месца.

**Яўген**: Калі гэта вытворчасць, то для яе прадугледжаная санітарна-ахоўная зона. Для стандартнай лесапілкі гэта 100 метраў, але неабходна правяраць у кожным канкрэтным выпадку. Я раю пісьмова звярнуцца ў райвыканкам, дзе вы просіце праверыць выкананне заканадаўства па пытаннях распараджэння адходамі – утылізацыю кары, і ўвогуле комплексна прасачыць, што ў яго адбываецца з адходамі. Праверыць, ці прытрымліваецца санітарна-ахоўнай зоны, шумавога забруджвання, аховы працы і тэхнікі бяспекі. Лепш, каб зварот быў ад імя некалькіх жыхароў, заклапочаных, што на такім і такім участку працуе вытворчасць, звязаная з апрацоўкай дрэва.

Заходзячы з таго, што вы расказваеце, там, напэўна, будуць парушэнні. Натуральна, гаспадар павінны ўлічваць інтарэсы мясцовых жыхароў, і просьба праверкі – ваша спроба прымусіць яго дамаўляцца. Калі не дапаможа – можна напісаць наступную скаргу ў аблвыканкам, пракуратуру.

**Аляксандр**: Так, ён стварае працоўныя месцы, робіць паслугу, плаціць падаткі, але жыве ў соцыуме і павінны лічыцца з вамі. Каб яго праца была плюсам, а не шкодай.

**"РГ"**: Яўген, ці ёсць розніца ў адносінах да экалогіі ў горадзе і вёсцы?

**Яўген**: Гэта больш залежыць ад узросту, адукацыі. Але жыццё ў горадзе больш уплывае на навакольнае асяроддзе за кошт транспарту, увогуле, за кошт кампактнага пражывання многіх людзей. Сапраўды, складана наладзіць добрую сістэму абыходжання з адходамі для двух мільёнаў, што жывуць на 350 квадратах.

У вёсках даўжэй служыць тэхніка, таму што вяскоўцы часцей яе рамантуюць, радзей мяняюць. З пункту гледжання экалогіі, гэта больш правільна. Гараджане часта мяняюць не толькі праз паломкі, але і таму, што прасцей паддаюцца ўплыву рэкламы і моды. Аднак сельскі лад жыцця сыходзіць. Мы даследавалі паўднёва-ўсходнія раёны Магілёўскай вобласці. Праз год 10-15 там увогуле ўсё будзе добра, таму што не застанецца людзей. Каб засталіся людзі ў вёсцы, неабходна, каб там была праца.

**Аляксандр**: Праўда, многія баяцца, што калі будзеш выступаць, каб часцей смецце вывозілі, пачнуць пужаць, што падымуць кватрплату. У вёсцы гэтай зашуганасці, можа, і больш, таму што мала працы, і рабочае месца вельмі страшна згубіць. І калі хтосьці не можа ўплываць на мяне, то дакладна ёсць блізкі, на каго націснуць атрымаецца. Спроба абараніць элементарныя правы выбудоўвае ланцужок наступстваў, якія за гэта могуць прыйсці.

Наш уплыў на

**"РГ"**: Якія экалагічныя праблемы найбольш актуальныя ў нашым рэгіёне?

**Аляксандра**: Магчыма, ёсць некаторыя спецыфічныя, напрыклад, у Маладзечне была актуальнай тэма свінакомплексаў. Але праблем больш універсальных. Напрыклад, смецце. Мы размаўлялі, што той, хто выходзіць на прыборкі смецця, сам смецціць ужо не будзе. Мне падаецца, што тыя, хто на гэтыя прыборкі ідзе, у прынцыпе ніколі не смецяць. Праблема ў тым, што неабходна дагрукацца да тых, хто гэта робіць.

> **Калі пачынаеш прасоўваць нейкія экалагічныя думкі, гэта ўспрымаюць негатыўна, па тыпу: "Вось прыйшлі вучыць мяне жыць". Тлумачыць варта праз тое, што важна і зразумела, – грошы.**

Складана зразумець, што лішні пакет у супермаркеце пасля трапляе ў акіян, у ім блытаецца рыбіна і душыцца. Можна расказваць, што пакет, які бясплатна даюць у краме, на самой справе зусім не бясплатны, на яго вытворчасць выдаткавалі немалыя сродкі, і іх можна накі-






Фота Kkrasnova.ru.

а навакольнае асяроддзе часам мала заўважны для нас, але яго дакладна адчуюць нашы нашчадкі.

роўваць на іншыя мэты. Можна расказваць, як дзякуючы экалогіі магчыма эканоміць сямейны бюджэт.

**Аляксандр**: Штрафы з'яўляюцца дзейсным сродкам у навядзенні парадку. Некаторым толькі так можна патлумачыць. Пабудаваў дом каля берага, зайшоў за дазволеную адлегласць – усе пашкадуюць, столькі ж уклаў. А калі б знеслі некалькі такіх дамоў і яшчэ штраф выплацілі, праблема дакладна вырашылася б.

**"РГ"**: Высокія ідэі ці грошы павінны весці да экалогіі?

**Яўген**: Камбінацыя. Напрыклад, у Заходняй Еўропе дзесяцігоддзе вядзецца работа па навучанні людзей. У той жа час даюць вялікія штрафы, калі смецце выкінулі не ў той кантэйнер – сусед патэлефануе і паскардзіцца. Фінансавыя стымулы таксама павінны быць, асабліва пакуль у нас невысокі ўзровень экалагічнай свядомасці. Хаця і цяпер па заканадаўстве мы мусім раздзельна збіраць смецце.

Яшчэ адна праблема – вялікі недахоп інспектараў, якія могуць выпісваць штрафы. Мяркую, што варта пашырыць спектр паўнамоцтваў для народных інспектараў, магчыма, для настаўнікаў, работнікаў сельсавета. Пакеты – вялікая праблема, але цяжка зразумець, прычым тут нашы грошы. Тут можа дапамагчы дэпазітная сістэма. Калі купляем бутэльку з напоем, плацім рубель. Трэба здаць мноства бутэлек, каб за іх здачу атрымаць грошы. Калі ж у цану ўключыць кошт бутэлькі, яна стане 1,20 рубля з тым, што 20 капеек табе вернуць, калі гэту бутэльку здасі ў сістэму збору. Можна выкінуць у кантэйнер, а можна вярнуць грошы. І калі не здасі сам, то знойдзецца той, хто зробіць гэта за цябе.

**Аляксандр**: Калі ніхто не здае, пытанне арганізацыі збору не стаіць. Першы год, як пераехаў на Астравеччыну, выявіў, каб здаваць другасную сыравіну можна было ў краме. Цяпер усё наладзілі, прадавец кажа, калі едзе машына, і ў гэты дзень адвозім. Так, гэта капейкі, але я раблю, каб усе бачылі, што гэта смецце пераважна з лесу.

Гуляю па лесе і проста па дарозе заадно збіраю смецце, вяртаюся – пакет поўны. Збіраем батарэйкі, два разы на год завожу ў горад. Цяпер пытанне, як энергазберагальныя лямпачкі збіраць, у горадзе ёсць месцы, а ў вёсцы трэба арганізоўваць, за паўгода кантэйнер збярэцца.

**Яўген**: Важна не столькі сабраць батарэйкі, колькі арыентаваць людзей на тое, каб яны не карысталіся аднаразовымі, а пераходзілі на акумулятарныя. Гэта і больш эканамічна, і адходаў менш. А праблему адходаў мы ніколі не вырашым, калі не будзем займацца мінімізацыяй спажывання.

**Аляксандра**: Якія хібы заканадаўства ў плане экалогіі вы бачыце?

**Яўген**: З аднаго пункту гледжання, заканадаўства ёсць. Аднак з іншага – пытанне кантролю і яго выканання рознае. У Мінску частая праблема ў тым, што існуючыя зялёныя зоны імкнуцца забудаваць, і хаця ўсё па заканадаўстве, але па факце гэтых зон усё меней. На жаль, месца органаў аховы прыроды ў сістэме дзяржорганаў не вельмі высокае.

Хаця апошнія гады пачалі прасоўваць тэму зялёнай эканомікі – значыць, заўважаецца, што пры разумным падыходзе экалагічныя справы могуць быць выгаднымі. Аднак ёсць шмат эканамічных фактараў, якія не ўлічваюцца. Напрыклад, эканомія на фільтрах прадпрыемстваў прыводзіць да выкіду шкодных рэчываў. Мы не бачым, што гэта пасля ўплывае на здароўе людзей, яны часцей хварэюць, даводзіцца плаціць больш бальнічных, павялічваецца нагрузка сацыяльных службаў. І калі мы кажам, што ў нас у гэтым месцы чысты лес, складана ацаніць, колькі гэта каштуе і ў колькі абыдзецца шкода пры яго забруджванні.

**Аляксандра**: Калі з балота здабываюць торф, можна карысць памераць грашмі. А прапанову захаваць, у што можна канвертаваць, каб гэта было зразумела?

**Яўген**: Для гэтага павінна быць заканадаўчая база. Каб горад, у якога ёсць прапанова правесці праз цэнтр аўтабан, параўнаў выгаду са шкодай у выпадку ўплыву праекта на здароўе жыхароў. Павінны быць стандарты, якімі змогуць кіравацца эканамісты. Аднак трэба таксама глядзець на іншыя краіны, якія значна нас апярэдзілі ў плане клопату за экалогію, і трымаць вочы шырока расплюшчанымі. Яшчэ адзін момант – у галіне аховы прыроды катастрафічна мала спецыялістаў.

> **У Міністэрстве ў аддзеле абыходжання з адходамі чатыры работнікі, якія моцна перагружаныя працай. У аналагічным аддзеле ў Галандыі працуе каля 200.**

**Аляксандр**: У мяне часам пытаюцца, чаму не іду ў ахову прыроды – няма магчымасці, нават на чвэрць стаўкі! Магу проста паўшчуваць, а каб меў паўнамоцтвы, мог выпісваць пратаколы, быў бы зусім іншы эфект.

Дык мала таго, што людзей не хапае. Сарачанскія азёры на ўскрайку раёна, выклікаю інспектара – кажа, у мяне паліва не хапае. Не наездзішся. Калі знайшоў скід сцёкаў у ваду, зноў выклікаю, прыязджае, так, трэба браць пробу. Але яна несапраўдная, яму трэба выклікаць са Смаргоні санстанцыю, і калі не дай бог проба акажацца нармальнай, яго з'ядуць, што сам прыехаў за 40 кіламетраў і яшчэ выклікаў спецыялістаў са Смаргоні. А ўявіце, колькі часу спатрэбіцца, пакуль пройдзе ўвесь ланцужок.

**Яўген**: Усё ж тэма экалогіі становіцца больш адкрытай і моднай, далучаюцца валанцёры. Так што можна казаць пра развіццё грамадскага экалагічнага кантролю.

**Аляксандра**: Калі змагаешся за экалогію, гэта не проста, таму што не заўсёды бачыш вынік сваёй працы. Аднак без гэтага ўнёску нас чакае сумная будучыня.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by



Фота Наталлі ТУР.

Аляксандр Дарашэвіч з Астравеччыны.



Фота Наталлі ТУР.

Дырэктар Цэнтра экалагічных рашэнняў Яўген Лабанаў.



Фота Наталлі ТУР.

Алена Шачыкава з Ілы.



Фота Наталлі ТУР.

Журналіст і экалагічная актывістка Аляксандра Парахня.

● ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

## Біл Гейтс: будучыня за навуковай базай, матэматыкай і эканомікай. Усё гэта развіваюць шахматы

**Самы багаты чалавек планеты Біл Гейтс назваў самыя важныя навыкі ў будучыні.**

"Я лічу, што заўсёды і ў будучыні будуць важныя базавыя навуковыя веды, матэматычныя навыкі і веды эканомікі", – сказаў мільярдэр.

Гэтыя тры паняцці выдатна выхоўваюцца і асэнсоўваюцца з дапамогай шахматаў. Паспрабую растлумачыць.

Мяне ў школе часта "прыгнятала" гісторыя. Не, не тое, што вы думаеце. Гісторыю я вельмі любіў, але... Адсутнасць сістэмнага і навуковага падыходу ў школьнай праграме пасапраўднаму прыгнятала.

Зноў патрабуецца тлумачэнне. У мяне ў школьным узросце былі, як мінімум, тры "гісторыі". Гісторыя ў звычайнай школе, музычная гісторыя ў музычнай школе і шахматная гісторыя пры дапамозе самастойнага вывучэння. Былі яшчэ асобныя "гісторыі" праз чытанне кніг па-за праграмай. Дык вось, нікім і нідзе не было спробаў злучыць усе гэтыя "гісторыі" ў адзін пазл.

Атрымлівалася, што ўсе яны былі ў нейкай рознай рэальнасці, і амаль нідзе не перакрыжоўваліся. Спробаў з боку школьнай праграмы не рабілася. А ёсць яшчэ і гісторыя хіміі, фізікі, матэматыкі і г.д. Усе людзі і навукоўцы, якія "рухалі" ўсе гэтыя навукі, жылі не толькі ў навуках, але і перасякаліся з літаратарамі, музыкамі, палітыкамі. Уплывалі на ход гісторыі.

Усе гэтыя неспадзяванкі і адсутнасць сістэмнасці ў навучанні я пачаў заўважаць толькі пасля паглыбленага вывучэння шахматаў. Дарэчы, і ў шахматах адсутнасць сістэмнасці і "навуковасці" ў падрыхтоўцы "прабіваецца" з маладых гадоў.

Пачнём з таго, што юнаму шахматысту трэба аб'яднаць свае невялікія пазнанні ў галіне дэбюту, мітэльшпілю і эндшпілю. У тым жа дэбюце выбудаваць стройную сістэму хаця б на адзін першы ход. Напрыклад, на е4. Хоць існуюць і іншыя асноўныя першыя хады: d4, c4, Kf3, якія ў сучасных шахматах перакрыжоўваюцца. Дык вось, трэба выбудаваць сваю сістэму дэбютаў, з адказам на е4. А іх таксама нямала: сіцылійская, французская, Кара-Кан, Пірца-Уфімцава і яшчэ штук з дзесяць абарон і сістэм. І гэта толькі адказы на Е4.

Цяпер адказы абароны за чорных. Трэба ведаць і вывучыць, і сістэматызаваць варыянты абарон на тыя ж е4, d4, c4, kf3. Прычым неабходна акрамя дэбюту ведаць асноўныя планы, варыянты і пераходы з дэбюту ў мітэльшпіль, а часам і ў эндшпіль. Усе гэтыя даволі патрэбныя і элементарныя веды асвойваюцца маладымі шахматыстамі на ўзроўні другога-першага кмс-разраду. Гэтыя элементарныя шахматныя веды і паняцці – выдатны трэнінг навуковага падыходу ў любых сферах чалавечых заняткаў і навукі.

Пра матэматыку і шахматы – другі неабходны навык па Гейтсу – увогуле маўчу. Многія далёка не дурныя людзі лічаць шахматы і матэматыку амаль сёстрамі або братамі... як вам больш падабаецца. Маё меркаванне – дзесьці ёсць невялікае падабенства з элементарнай геаметрыяй. Але больш з логікай. А логіку ў школе не вучаць.

Крыху пра эканоміку і шахматы. Вельмі цікава назіраць у гэтым кантэксце за юнымі шахматыстамі. Часта адразу бачныя "транжыры", якія раскідваюцца шахматным матэрыялам, і акуратныя дзяўчынкі-"бухгалтары", якія скрупулёзна падлічваюць пешачкі. І хлопчыкі-"транжыры", і дзяўчынкі-"шахматныя бухгалтары" па-свойму і ў жыцці маюць рацыю і часта чакана прымітыўныя. І ў "транжырстве", і ў скрупулёзнасці ёсць плюсы і мінусы, а ісціна ў майстэрстве, аналізе, кампетэнцыі.

Падвядзём вынікі. Біл Гейтс "уліў" у сістэму адукацыі ЗША ў 2017 годзе каля 4 мільярдаў долараў для яе паляпшэння. У нас няма такіх Білаў, і ўсе надзеі на саміх сябе. Паводле Гейтса, будучыня за навуковым падыходам, матэматыкай і эканомікай. У гульнявой форме гэтыя базавыя веды выхоўваюцца шахматамі.

Вучыцеся гуляць у шахматы і вучыце сваіх дзяцей.



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

# Фітнес-трэнер: "Навагоднія святы – стрэс для арганізма"

МАЛАДЗЕЧНА

**Нарэшце, навагоднія святы скончыліся. Салацікі даелі, цукеркі ў навагодніх падарунках засталіся толькі нясмачныя.**

І толькі дамашнія вагі стаяць у чаканні сваіх гаспадынь. І, як гэта бывае пасля святаў, вагі ведаюць, што пасля шоку і ўздыхаў на іх будуць станавіцца часцей, бо прыгажуні ўспомнілі пра рэжым.

Мы пагутарылі з фітнес-трэнерам **Марынай Глябец**. І яна расказала, як хутка прывесці сябе ў форму пасля свята.

– Самае галоўнае, – кажа Марына, – што трэба памятаць усім: навагодняя ноч не павінна вылівацца ў навагодні тыдзень! Гэта значыць, мы адзначаем свята адзін дзень, а потым, максімальна хутка, вяртаемся да свайго звычайнага, будзённага ладу жыцця.

У ідэале, як 31 снежня многія любяць хадзіць у лазню, то 2 студзеня трэба ўзяць за звычку хадзіць у трэнажорную залу.

**– А перад пешай трэніроўкай у новым годзе трэба зрабіць разгрузачны дзень?**

– Калі вы маеце на ўвазе дзень на кефіры, тварагу ці нешта накшталт таго, то гэтага рабіць не варта. Лепш вярнуцца да звыклага, рацыянальнага рэжыму харчавання. Адзінае, можна толькі трохі скараціць колькасць вугляводаў.

**– Першая трэніроўка ў новым годзе з чаго павінна пачынацца?**

– Першая трэніроўка пасля святаў, ды і ўвогуле першая трэніроўка, павінна быць больш лёгкая. Калі гэта кардыё, то ўмеранае, не занадта інтэнсіўнае. Калі сілавая, то агульная, на ўсё цела, а не па мышачных групах. А яшчэ лепш звярнуцца да трэнера, ён дакладна ведае, у якім рэжыме вам пачынаць трэніравацца.

**– Марына, парады даваць лёгка, а вы, трэнер, як перажылі навагоднія святы?**

– Навагоднія святы я перажыла нармальна. Дазволіла сабе стравы, якія даўно не ела і якія не часта бываюць у маім рацыёне, але без асаблівай шкоды для арганізма. На святах я са спакойнай душой магу дазволіць сабе расслабіцца, бо ведаю, як хуценька прывесці сябе ў форму.

**– 31 снежня вы пайшлі ў лазню ці на трэніроўку?**

– 31 снежня я не трэніруюся, бо ў гэты дзень я займаюся падрыхтоўкай да свята. Ды і бяссонная ноч напярэдадні, паўнавартаснае аднаўленне пасля трэніроўкі не атрымаецца. А людзі 31 снежня ўсё ж такі прыходзяць да самага вечара.

**– Марына, напярэдадні яшчэ стары Новы год і, магчыма, нехта захоча паўтарыць навагоднюю ноч. Параіце, як гэта зрабіць з максімальнай карысцю для арганізма?**

– Каб любое застолле зрабіць максімальна лёгкім і карысным, галоўнае, на мой погляд, абысціся без маянэзу, высокакаларыйных, рафінаваных і перапрацаваных прадуктаў. Для падрыхтоўкі страў абраць мяса і птушку нятлустых гатункаў. Разнастаіць меню вялікай колькасцю свежай гародніны, зеляніны і садавіны. Па спосабе прыгатавання пазбягаць смажання, а аддаць перавагу запяканню і тушэнню.

**– Падкажыце эфектыўнае практыкаванне для прэса, ён жа больш за ўсё пацярпеў ад застолля.**

– Я не пагаджуся з тым, што ад застолля, перш за ўсё, пакутуе прэс. Як правіла, дадаецца ў праблемных месцах і ва ўсіх гэта вельмі індывідуальна. Каб мінімізаваць гэты эфект, трэба ў першую чаргу рабіць добрае кардыё. А ўвогуле, адны з маіх любімых і дзейсных практыкаванняў на прэс – гэта класічныя скручванні, планка і дыхальнае практыкаванне "вакуум у жываце".

**Наталля ТУР.**



Фота забяспечана Марынай ГЛЯБЕЦ

Марына Глябец ведае, як хутка ўвайсці ў звыклы рытм жыцця пасля святаў.

**Фірменная страва ад фітнес-трэнера**

"Курыца на солі". Курыца націраецца спецыямі і часнаком, на бляху высыпаецца пачак дробнай солі экстра. Кладзецца курыца на соль і адпраўляецца ў разагрэтую духоўку. Запякаць пры тэмпературы 180-200 градусаў прыкладна гадзіну, да гатоўнасці.





# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Што прапанаваў Адміністрацыі Прэзідэнта атрымаць з Астравецкай АЭС мінчанін Аляксандр Хрол?
3. Прыпеўка: “Тапор, рукавіца, Жана ... не баіцца”
4. Штодзень чалавеку трэба яго 350-700 літраў.
6. Невядомая велічыня, калі “Х” ужо ёсць.
9. Скажонае ўяўленне, уражанне, заснаванае на падмане пачуццяў.
10. Тое, што акружае як рамка.
11. Колькасць рухаў, ваганняў, паўтарэнняў.
16. Той, хто ахоўвае, абараняе.
19. Імя беларускага прафесара медыцыны і прафесара, які стварыў першы правобраз радыёпрыёмніка, але не запатэнтаваў вынаходніцтва.
20. Сукупнасць музычных інструментаў, што ўдзельнічаюць у выкананні музычнага твора.
23. Найбольшы запаведнік у свеце.
24. Высокая травяністая расліна сямейства асаковых.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Металічны сасуд на доўгіх ланцужках, у якім у час набажэнства курыцца ладан або іншыя пахучыя рэчывы.
5. Мнагастворчатыя аканіцы.
7. Мора, якое памірае з-за экалагічнай катастрофы.
8. Гэту рыбіну называюць воднай свіннёй.
11. Джордж Оруэл напісаў эсэ, у якім расказвае пра 11 спосабаў яго прыгатавання. Выбар тэмы патлумачыў так: “Гэта цікава, але не толькі таму, што ён адна з апор брытанскай цывілізацыі, але і таму, што лепшы спосаб – прадмет няпростых спрэчак”.
12. Складаная, заблытаная справа ў судовай практыцы.
13. Жалезны кручок з ручкай для падымання і пераносу скаварады.
14. Калі вам часта пачаў трапляцца падарожнік, значыць, яна паблізу.
15. Меркаваная планета, якая месцілася паміж Марсам і Юпітарам, а цяпер уяўляе сабой пояс астэроідаў.
17. Рыгор Барадулін: “Світанняў я з табой не сустракаў, Не рассякаў вяслом азёрнай хвалі. І толькі ў хваляванні скуб ..., Калі цябе да дошкі выклікалі”.
18. Які стаў халодным.
21. Месца стаянкі Ноевага каўчэга.
22. Мужчына, які танцуе з дамай, суправаджае яе на гулянні.

## Адказы на крыжаванку з №51.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Лянота. 2. Кальвінізм. 4. Пешка. 5. Інтуіцыя. 8. Сукенку. 9. Экватар.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 3. Астравец. 6. Наўру. 7. Відэлец. 10. Вада. 11. Нідэрланды. 12. Тэціс.

## ГАРАСКОП 12-18 СТУДЗЕНЯ



**Авен.** Дазвольце лёсу самастойна расставіць прыярытэты, ён ведае, што вам у першую чаргу трэба. Акружыце сябе ўсім, што вы любіце. Ці то гэта сям'я, жывёлы, расліны, хобі – што заўгодна. Ваш дом – ваша сховішча.



**Цялец.** Спрыяльныя дні, якія дазволяць закласці асновы для дабрабыту ў далейшым. Але ў першую чаргу ад вас патрабуецца не працаваць, а наадварот адпачываць. Менавіта ў пачатку тыдня вы зможаце дасягнуць нейкага фінальнага выніку (хутчэй за ўсё ў справах матэрыяльных), пасля чаго зможаце спакойна задавольвацца тым, што маеце, песціць планы і назапашваць сілы. Адпачынак вельмі карысны не толькі для аднаўлення фізічных сіл, але і для атрымання ўнутранага адзінства, што дае вам магчымасць шырэй глядзець на рэчы і атрымліваць больш значныя вынікі.



**Блізняты.** Не ўпусціце шанец, які хутка можа падвярнуцца. Вам трэба будзе правярнуць адну справу. Можа, гэта і не зусім законна, але пры спрыяльным збегу абставін вы атрымаеце задуманае і выйдзеце сухімі з вады. А пераможцаў, як кажуць, не судзяць.



**Рак.** Часцей паўтарайце словы: “Тое, чаго я хачу, з вялікім жаданнем імкнецца быць маім. Такі вось абавязак ва ўсяго, што я хачу, стаць маім”. Запусціце гэтыя словы ў сваю падсвядомасць, і яны будуць дзейнічаць як праграма.



**Леў.** Якой бы ўладнай і моцнай натурай вы ні былі б, трэба памятаць, што мяккасцю і пяшчотай можна дасягнуць вельмі многага, калі ўмела гэта прымяняць.



**Дзева.** Перыяд падыходзіць для тых, хто прывык дзейнічаць сваімі сіламі і разлічваць толькі на сябе. Больш упэўненасці ў сабе, усё атрымаецца. Магчыма, вам захочацца паехаць адпачыць. Не варта і думаць. Вы зробіце абсалютна правільны крок, бо адпачынак яшчэ ніколі і нікому не перашкаджаў.



**Шалі.** Вам цяпер проста неабходная парада блізкага чалавека, бо вы знаходзіцеся не ў тым стане душы, каб прымаць жыццёва важныя рашэнні.



**Скарпіён.** Не заганяйце крыўды глыбока ў сябе, умейце дараваць. І тады жыццё будзе расквечанае рознымі колерамі вясёлкі, вам не прыйдзецца звяртацца па дапамогу да доктара.



**Стралец.** Дазвольце усяму адбывацца так, як адбываецца, адпусціце ўсё на волю лёсу. Бо самім змяніць вам наўрад ці ўдасца, а так яно выйдзе нашмат лепш.



**Казярог.** Праявіце мудрасць – успрымайце ўсе падзеі, як урокі жыцця, якія неабходна вывучыць, асвоіць і выкарыстоўваць у далейшым. Бо не толькі ў радасці пазнаецца наш сапраўдны свет.



**Вадалей.** Не распыляйцеся. І памятайце: вы можаце дасягнуць усяго, калі будзеце да гэтага імкнуцца. А дапамагаючы іншым, вы зможаце займець мір і шчасце, гармонію ва ўласнай душы. Вам прыйдзецца ўясніць гэту мудрасць і ўвасобіць яе ў жыццё.



**Рыбы.** Работа, якую спатрэбіцца рабіць цяпер, вам хутка надакучыць, і захочацца змяніць абстаноўку, прыўнесці ў жыццё штосьці новае і лёгкае, павесяліцца ці аддацца разважанням, зрабіць перастаноўку дома, ці дазволіць сабе пагультайнічаць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | | | | | | | 2 | |
| | | | | 2 | | | 1 | |
| | | | | 9 | | 4 | | |
| 6 | | | | | | | | |
| | | | 1 | | | | 7 | |
| 9 | 4 | | | | | | | |
| | | 7 | 3 | | | | | |
| | | | | | 5 | 6 | | |
| | | 2 | | | | | | 9 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА СТУДЗЕНЬ**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

ПРЭМ'ЕРА. “**Тайна вострава людаедаў**” (пірацкі трылер у адной дзеі) 8+, *Дамір Салімзянаў*
14 студзеня – у 11:00

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

“**Вакзал на траіх**” (трагікамедыя ў 2-х частках) 16+, *Ігар Балабко*
12 студзеня – у 19:00

“**Нязваны госць**” (сур'ёзная камедыя) 16+, *Святлана Бартохава*
17 студзеня – у 19:00

“**Шукаю сапраўднага мужчыну**” (камедыя ў 2-х дзеях) 16+, *Алена Папова*
21 студзеня – у 17:00

“**Прыгажуні**” (амерыканская камедыя) 16+
26 студзеня – у 19:00

“**№13**” (камедыя ў 2-х дзеях) 16+, *Рэй Куні*
28 студзеня – у 17:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***
Кантактныя тэлефоны:
**74-63-86** – намеснік дырэктара,
**74-63-88** – галоўны адміністратар,
**74-63-85** – каса.
E-mail: modt@tut.by, www.theatre-modt.by

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

**РЭПЕРТУАР НА СТУДЗЕНЬ**

“**Меч анёла**” (батлеечная варыяцыі), І.Сідарук (бел.)
14 студзеня – у 12:00

“**Шчаўкунчык**” (калядная казка), Э.Т.А.Гофман (рус.)
21 студзеня – у 12:00

“**Залатая табакерка**” (казка-жарт), А.Плютава
28 студзеня – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
**Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.**
Тэл. (8-0176) **74-62-19, 50-56-96.** УНП 600136804

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017 · 2015

тэлетыдзень

● НАДВОР'Е

## 13 студзеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -1 / -2 | | -4 / -4 | | -6 / -6 | | -9 / -6 | |
| | 729 | ↑ 6 | 759 | ← 3 | 756 | ↖ 4 | 755 | ← 3 |
| Вільня | -2 / -2 | | -5 / -4 | | -7 / -5 | | -8 / -5 | |
| | 763 | ← 4 | 766 | ↖ 3 | 762 | ↖ 3 | 759 | ↑ 6 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |



Усход 9.26
Захад 17.17
Даўжыня дня 7.51

Усход 6.01
Захад 14.46
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -28,6 °С у 1963 годзе
Максімальная тэмпература +6,7 °С у 2007 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 14,2 мм у 2016 годзе
Паводле meteoinfo.by

# Ірма і Март дзякуюць за падарункі "Рэгіянальнай газеты"

**Пераможца акцыі "Мой гадаванец" Вольга Малько на мінулым тыдні зайшла да нас за падарункамі.**



Прыйшла адна, а ўжо ўвечары даслала фотаздымак сваіх гадаванцаў Ірмы і Марта з падоранымі цацкамі.

Аднак ад асноўнага падарунка – корму – сабакі і іх гаспадыня адмовіліся. Не, не таму, што нашы пераможцы пераборлівыя, а таму, што Вольга палічыла гэты корм больш патрэбным сабакам з прытулку.

Але вось бяда, у Маладзечне такога прытулку няма нават у праекце, а ў Вілейцы закрыўся яшчэ восенню. Таму корм стаіць у рэдакцыі. І мы абавязкова яго перададзім таму, хто мае ў ім патрэбу.

**Аддзел інфармацыі.**

## Чытайце праз тыдзень:

- 19 студзеня адзначаецца Дзень выратавальніка. Усім вядома, што гэта прафесія звязаная з рызыкай, але хто яны, героі, якія атрымалі сёлета ўзнагароду "За мужнасць"? Пазнаёмімся з тымі, хто ў 2017 годзе ратаваў людзей на пажарах і ў ДТЗ, у наступным нумары.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Якую экалагічную праблему вы лічыце найбольш небяспечнай для сябе?



**Ірына Папова, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Не ведаеш, што есці, каб гэта было карысным для дзіцяці і для сябе. Глядзіш на малако, што захоўвацца паўгода, на круасаны, што ледзь не цэлы год быццам бы іх толькі спяклі, на агуркі, якія прадаюцца ў студзені, і думаеш, чым гэта пагражае арганізму.



**Наталля Міхалевіч, студэнтка, Вілейка:**
– Такой праблемай лічу перанаселенасць. Яна вядзе да ўзмацнення ўсіх астатніх экалагічных праблем.



**Алег Бурко, будаўнік, Маладзечна:**
– Не задумваўся асабліва. Магчыма, забруджванне паветра ад транспарту і прадпрыемстваў, асабліва ў вялікіх гарадах. У Маладзечне па гэтай праблеме яшчэ жыць можна.



**Вікторыя Іванец, работніца культуры, Вілейка:**
– Асабіста для сябе самай страшнай экалагічнай праблемай лічу вялікую паводку, бо не ўмею плаваць.



**Марыя Кіпель, студэнтка, Вілейка:**
– Забруджванне вады. Гэта выклікае новыя хваробы, пагаршэнне здароўя ва ўсіх людзей, і ў мяне ў прыватнасці.



**Вольга Зелянко, медсястра, Маладзечна:**
– Забруджванне лясоў. Люблю хадзіць у ягады і грыбы, вельмі непрыемна бачыць там горы смецця.



**Кірыл Макарэвіч, кіроўца, Маладзечна:**
– Не ведаю нават, якую праблему выдзеліць. Тое ж забруджванне вады і паветра аднолькава небяспечнае для ўсіх. Таму і для мяне.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№2 (1185) 12.01.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 42. Падпісана ў друк у 9.00 11.01.2018.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.